Віктар Кунцэвіч

# ГОРКАЯ СПАКУСА

КНІГА ЛІРЫКІ



Мінск
"Беларускі кнігазбор"
1999

УДК 882.6-1
ББК 84 (4Беи)
К 91

**Кунцэвіч В.**
К 91 Горкая спакуса: Кн. лірыкі. –Мн.:
"Беларускі кнігазбор", 1999. –176 с.
ISBN 985-6318-51-3

За першую кнігу вершаў "Зваротныя масты", якая пабачыла свет у 1996 годзе, Віктар Кунцэвіч стаў лаўрэатам прэміі часопіса "Маладосць", і гэта заканамерна, таму што паэзія маладога аўтара прываблівае шырынёй і актуальнасцю тэм, пошукам свежых мастацкіх вобразаў і дэталяў, тонкай назіральнасцю. У многіх вершах чуецца іронія, лёгкая смяшынка, асобныя вершы цалкам гумарыстычныя, а ўся кніга «Горкая спакуса» напоўнена клопатам пра сэнс жыцця і духоўную апору ў наш складаны, пераломны час. Новы зборнік Віктар Кунцэвіч так назваў нездарма: амаль шэсцьдзесяткаў паэтычных мініяцюр у гэтай кнізе прысвечаны высакароднай і неўміручай тэме кахання.

УДК 882.6-1
ББК 84 (4Беи)

**ISBN 985-6318-51-3**

# КАЛІ ДУША – СПЯВАЕ

Прыемна, адгарнуўшы кніжку, напаткаць у ёй твор, у якім шмат звыклага, знаёмага і разам з тым прысутнічае тое, нярэдка няўлоўнае адкрыццё, што нязменна спадарожнічае сапраўднай паэзіі. Нават не той, якая вызначаецца выкрышталізаваным майстэрствам – часта яно становіцца для творцы самамэтай,а паэзіі, што нарадзілася ў выніку жадання выказацца, спатоліць прагу споведзі . А гэта якраз і ёсць у вершах Віктара Кунцэвіча – паэта, для якога паэзія бачыцца ва ўсім навакольным свеце. Гэта акурат той стан душы , пра які некалі вельмі дакладна сказала незабыўная Еўдакія Якаўлеўна Лось: «У кожным імгненні паэзія ёсць, у кожным імкненні яе прыгажосць...» Гэтыя імгненні і прысутнічаюць у вершах В. Кунцэвіча, нараджаюцца ж яны з імкнення не толькі бачыць прыгажосць –у людзях, у справах, ва ўчынках, пачуццях, а і дзяліцца з іншымі той непаўторнасцю, якой яны, магчыма, па нейкіх прычынах і не заўважаюць.

А такіх твораў, у якіх радасць сузірання быцця спалучаецца з ненатольным жаданнем адчуць яго, прапусціць праз сябе, у В. Кунцэвіча шмат. Для прыкладу, і ў гэтым вершы:

*Лес, палянкі, цішыня –*
*Так было і будзе.*
*Пах грыбніцы, і штодня*
*Дыхаюць ім грудзі.*
*У спакоі і цішы*
*Мрояць штосьці дрэвы.*
*Гоман блізка ля шашы,*
*Звоняць птушак спевы.*

Звычайнае, як быццам, усё знаёма, а кранае сэрца. Гэткая ж чысціня думак, пачуццяў і ў іншых лірычных вершах паэта – прачулых і напоўненых, здаецца, усім святлом, якое ёсць у прыродзе. В. Кунцэвіч валодае ўменнем ствараць настрой. Яго лірычны герой, хоць часам і знаходзіцца на своеасаблівых ростанях, ды ён умее саўладаць з сабой, здатны пераадолець мінутную слабасць, бо разумее – перад самой вечнасцю многае, што турбуе ў паўсядзённасці, выглядае выпадковым і недарэчным. Вечнасць жа, сусвет «прарастаюць» з дробязяў, калі да іх належным чынам паставіцца. І гэтая паяднанасць сённяшніх рэалій з тым, што незаўсёды і магчыма адчуць, выклікае ў паэта жаданне, душэўную неўтаймаванасць выліць у радкі, якія не толькі трэба чытаць... Яны патрабуюць працы думкі і яны ж да актыўнай працы рыхтуюць душу:

*Марозным днём,*
*Калі на дрэвах*
*Снег крохкі,*
*Быццам забыццё,*
*Самотныя мяцеліц спевы*
*Напомняць воўчае выццё.*
*Няма, здаецца, спатолення*
*Пачуццям, думкам.*
*Дзіўны сон*
*Сусвет лянотай абпраменіў –*
*І бачыцца бясконцым ён.*

«Горкая спакуса» – не першая кніжка В. Кунцэвіча. Да гэтага ў 1996 годзе ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць» у яго выйшаў зборнік «Зваротныя масты», што быў прыхільна сустрэты і чытачамі, і крытыкай. Прый-

шоў жа да свайго паэтычнага дэбюта аўтар чалавекам даволі сталым. Нарадзіуся В. Кунцэвіч у 1957 годзе ў вёсцы Чырвоны Бор Бялыніцкага раёна. Скончыў Магілёўскае ГПТВ-54, працаваў зваршчыкам, пасля ўпадабаў прафесію шафёра, стаў вадзіцелем таксі ў Магілёве. Адначасова завочна вучыўся на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Жаданы дыплом аб вышэйшай адукацыі атрымаў у 1995 годзе. А яшчэ, як мы любім казаць, у вольны ад работы час пісаў вершы. Спачатку яны друкаваліся ў магілёўскай раённай газеце «Прыдняпроўская ніва», а крыху пазней змог паэт і на старонкі іншых выданняў трапіць – газеты «Чырвоная змена», штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», часопіса «Маладосць», асобных калектыўных зборнікаў.

Кнігай «Зваротныя масты» была зроблена ўдалая творчая заяўка. Кнігай «Горкая спакуса» паэт не толькі пацвярджае трываласць узятых творчых вышынь, а сягае далей у спасціжэнні рэчаіснасці, прагнучы дасканаласці радка, суладдзя думак і пачуццяў.А другая кніга, як вядома, ці не ў любога творцы вызначальная. Калі першай ён атрымлівае і некаторы аванс – і ў чытача, і ў крытыкі, дык цяпер яго трэба аддаваць. Інакш лёгка страціць да сябе ўвагу. На шчасце, В. Кунцэвічу ўдалося яшчэ раз даказаць, што ён не вершатворца, а менавіта ПАЭТ. Пры тым паэт у розных вершах.

І гэта пераконваюць творы, у якіх відавочны публіцыстычныя моманты. Маюцца на ўвазе вершы з ярка выражанымі адраджэнцкімі матывамі. Лепшы сярод іх – «***Залацістая бясконцасць»:

*Залацістая бясконцасць*
*І святлынь у наваколлі.*
*Зеляніна, што ад сонца,*

*Пырснула на шэрым голлі.*
*– Распрамляйце, людзі, плечы! –*
*Кліч вясны на Беларусі.*
*І жыццё здаецца вечным,*
*І вяслуюць небам гусі.*

Асноўная думка прама не выказваецца, яна – у падтэксце. І ад гэтага верш толькі выйграе. Праўда, калі быць шчырым да канца, у асобных творах гэтага кшталту надзённая тэма належным чынам не раскрываецца, а толькі прысутнічае. Урэшце, не асобныя пралікі ствараюць уражанне і аб новым зборніку В. Кунцэвіча і аб яго паэзіі ўвогуле. Перад намі ПАЭТ. І гэта галоўнае. А што ўсё і на самой справе так, чытач лёгка ўпэўніцца, калі перагорне старонкі такой цікавай і надзіва змястоўнай кніжкі, напісанай , кажучы яго ж словамі, дзеля таго, «каб душа запела».

**Алесь Марціновіч,**
*крытык, літаратуразнаўца,*
*лаўрэат Дзяржаўнай прэміі*
*Рэспублікі Беларусь*
*імя Кастуся Каліноўскага*

## УЗРОСТ ХРЫСТА

Ну, вось і ён – узрост Хрыста.
Назад глядзець дарэмна – пуста,
Бо жыў не так, зусім не так!
І на душы пакутны згустак:
Бязвер'е, п'янства і спадманы, –
Не дакарай мяне, прасцяг!
З віны сваёй абрабаваны,
Цяпер пачну я новы шлях.

* * *

Сплылі, сышлі былога воды,
І толькі ў ранішняй цішы
Яшчэ імжыць пасля нягоды,
Ды пацяплела на душы.
І свет у новым успрыманні
Неспадзявана блізкі стаў,
Бо ў гэтым жаўруковым ранні
Прыціх мой боль, адскавытаў.

***

Зязюля на бары лічыла
Наканаваныя гады.
Ў яе ж «ку-ку» таемнай сілы –
Нібыта ў валуне вады.
– Ку-ку! Ку-ку! – і адгалоссе
Ляціць за вёску, за раку...
А дзівакі, дзівачкі просяць:
– Зязюлька, мілая, кукуй!
І рэха на бары блудзіла,
І росна пырскала трава,
Ды блізка дзесь загаласіла
Зацята ў хмызняку сава.

***

Я ведаю, што я – Сусвет
І валадар зямлі і зорак,
Ды вось маркотна часта мне
Ад адзіноты, як ад гора.

***

Кіпіць і пеніць квецень бэзу,
Ды, злой знявечаны рукой,
На месцы злому ці парэзу
Слязою сочыцца жывой.
Цярплівы бэз не лямантуе,
А дорыць прыгажосць і пах,
Хаця відаць: усё ж шкадуе,
Што ён не ружа на шыпах.

# МАЙСКІ ЖУК

У вячэрняе акно
Майскі жук упарта б'ецца,
Да святла, бядак, ірвецца –
Сын чакаў яго даўно.
З-пад запалак пачак ён
Для турмы жуку рыхтуе.
Бедака хрушча шкадую:
Ведаў бы пра свой палон!
Сын сказаў: «Я не магу
Волю даць жуку. Ганяўся
Дзень за ім. І вось папаўся...
Буду слухаць яго гул».

* * *

Апоўначы думкі роем
У цішыні маўчання –
Трывогаю, неспакоем
Душы клекатаць да рання.
Зірнуў у акно нясмела
Паглядам цікаўным ранак:
– Здаецца, перакіпела,
Цяпер будзеш дзень, як п'яны.

***

Залацістая бясконцасць
І святлынь у наваколлі.
Зеляніна, што ад сонца,
Пырснула на шэрым голлі.
– Распрамляйце, людзі, плечы! –
Кліч вясны на Беларусі.
І жыццё здаецца вечным,
І вяслуюць небам гусі.

* * *

Калі трывожна сэрца б'ецца,
Баліць і нудзіцца душа,
То ведай: твой адчай мінецца,
Уразумей адно спярша,
Што дадзены Хрыстом пакуты,
Якія бурнаю ракой
Нясуць пякельны боль і смутак –
Вядуць душу на супакой.

## ДУША

Пакуль душа мая жыве,
Я весялюся, п'ю і плачу.
Усхліп зарніцы ў даль заве –
Зямны я, грэшны чалавек
Перад Тварцом зусім няўдзячны.
Тут, на зямлі, жадаю жыць –
Чаму ж душа да неба мкнецца?
З крыжоў дажджам журбу не змыць.
Жыцця нацягнутая ніць,
І ў ёй душа падранкам б'ецца.

# ХРАМ БЯЛЫНІЦКАЙ МАЦІ БОСКАЙ

У Бялынічах храм белы
Бялыніцкай Маці Боскай
Быў буслянкаю веры.
Белакаменны востраў
У абдымках дамкоў убогіх
Бачыў здалёк люд просты.
Віталі яго дарогі
І благаслаўлялі пагосты.
«Бацька» – бугай раёна
Буркнуў: «Абрыдла бяльмо».
Свечкамі ўспыхнулі клёны,
Храм скалануўся і лёг
Вежамі долу. Можа,
З вернікамі развітаўся.
«Бацька» – бугай бязбожны –
Спаць з маладзіцаю клаўся.

# ЗОРНЫ ХРАМ

Над намі храм святлісты ў зорках.
Ён у блакіце. І званы
Гудуць на ўсіх жыцця пагорках
У пошуку душы – вясны.
Над намі з неба ёсць апека,
Яна знаёма й валунам.
Нам творцам стаць, стаць чалавекам
Дапамагае зорны храм.

***

Аціхае гул у звоне.
Атухае боль душы,
Прыдняпроўскае улонне
Блаславяць кладоў крыжы.
Ціха, быццам перад бурай,
Млее сонца ў галавах,
І мінуліся хаўтуры
Пачуцця.
Стаю ў жытах,
Дзе пяшчотна ловіць вуха
Залаты звон каласоў,
І пытае ў сэрца скруха:
Што шукаў я,
Што знайшоў?
Што я меў і што я маю
Без цяпла тваёй рукі?
Ды спакой жыцця прымаю,
Як самотныя вянкі.

## РЭХА

З бацькам колісь на кані
Я па дровы ехаў.
Першы раз пагаманіў,
Пагалёкаў з рэхам:
– Мая маці – Беларусь,
Чуеш мяне, рэха?!
– Русь, – сцвярджала рэха, – Русь...
Эхо... Эхо... Эхо...

Праімчала над зямлёй
Год маіх нямала,
Рэха вызначыла лёс,
Хоць і жартавала.
«Эхо» – кажа мой народ.
Не на волі рэха,
І дарэмна мы на ўсход
Зноў глядзім з суцехай.

# БЯЛЫНІЦКІ КРАЙ МІЛЫ

Ля рэчкі Друць бярозка
Лістотай ціха звоніць.
Мая радзіма – вёска
Ў Бялыніцкім раёне.
Чароўны краю мілы,
Ты прыгажэйшы ў свеце:
Развінуў бусел крылы,
Бягуць да рэчкі дзеці.
Прайшлася навальніца
Чарнобыльскай навалы:
Зямля мая гняздзіцца,
Пакутнікаў пазвала.
Усім тут хопіць зорак,
Паветра і прыволля.
Узыдзеш на пагорак
І п'еш бясконцасць волі.

* * *

Беларусі спеў – палеткі
Поспех – постук цягніка
Гора – чорныя пралескі
Мара – ўсхліпы маяка
Лёс – расійская рулетка
Боязь – сквапная рука
Сорам – царскія аб’едкі
Воля – ўсхліпы маяка.

# МАГІЛЁЎ

Зелянееецца зямля
З веснавога слова,
Песціць песня салаўя
Сэрца Магілёва.
Маладосці агнявой,
Сталасці скалістай
Непаўторны горад мой
Дорыць урачыстасць.
Бульбу ў прысаку пяклі
Воіны Машэкі.
Ён паноў не за рублі,
А за гвалт і здзекі
Над гаротнымі людзьмі
«Цешыў» адпаведна.
Той жыцця мінуўся міг,
Ды жыве легенда;
Маладзееш, горад, ты
Спадчыну шануеш;
І на вежах залатых
Храмаў зоркі днююць;
І заводы ўсе твае
Годны працай шчырай;
Над вадой Дняпра пяе
Закаханых ліра.

# МАГІЛЁЎШЧЫНА

Праз стус гадоў плюскоча хваляй
І велічна нясе удалеч
Вады бясцэннай серабро,
А з ёй і памяць, наш Дняпро.
Жыццё травінкам дорыць, краскам
І да людзей заўжды ён з ласкай –
Іх кліча з лесу і палёў.
Працоўны горад Магілёў
У люстра вод яго глядзіцца.
Рака для горада – крыніца.
Рака для горада – жыццё.
Свае ён крылы распрасцёр.
Уздоўж яе гаючай сілы.
Сівы Дняпро,
Мой горад мілы,
Гады так хутка карагодзяць –
Я вас люблю,
Жывіце ў згодзе:
Хай ні рака, ні ўнук, ні сын
Не ўбачаць горада руін.

# СЛОВЫ

Па начных праспектах Магілёва,
Па аціхлых вулках і завулках,
Як бадзягі, валакуцца словы –
Гукі натыкаюцца на гукі.
Колькі людзі слоў панараджалі
Дый пакінулі гібець у брудзе.
Словам хочацца патрапіць на скрыжалі,
А не паміраць зусім, як людзі.
Многа іх бяздумных, злых, самотных,
Многа слоў, што ланцугамі скуты.
Шмат прыгожых, мноства і пяшчотных...
Каб маглі мы бачыць іх пакуты!
Па начных праспектах Магілёва,
Па аціхлых вулках і завулках,
Як бадзягі, сноўдаюцца словы –
Гукі натыкаюцца на гукі.

* * *

Я за цябе даўно малюся,
Святы, бацькоўскі кут мой родны!
Плячом, душой і сэрцам рвуся
Трымаць цяжар пакут звыродных,
І мару, каб не стала здзеку
Над мілай матчынаю мовай.
Хрыстос, дай розум чалавеку,
Што мову ганьбіць брудным словам.
І спадзяюся: нашы людзі,
Хоць ім бліжэй Масква ці Кіеў,
Уразумеюць – мы ў аблудзе.
Без мовы мы. Хто ж мы такія?

# МАТЧЫН СПЕЎ

Колькі моў на свеце?
З іх адна – мая!
З ёю мяне вецер
У палях люляў.
І даносіў словы:
«Спі, сынок, бай-бай.
Гонар, годнасць, мовы
Д'яблу не прадай!»
Ды ў жыцці заклятым
Шмат гадоў прайшло.
Дзецюком вусатым
Еду я ў сяло.
Тут усё не нова,
Тут усім я свой.
Родны кут, а мовай
Гавару чужой.
Час павевам горкім
Сон мой абудзіў:
За якім пагоркам
Гонар свой згубіў?
І святую існасць
Нагадаў мне край:
«Над сынка калыскай
Матчын спеў спявай!»

# МОВЯЧЫ З БАГДАНОВІЧАМ

*Сумна мне, а ў сэрцы*
*Ціха смутак запявае...*

*М.Багдановіч*

Агорне сумам сэрца вечар,
І ў небе сполахі; дарэчы,
Яны пасланыя з нябыту,
Як напамін – не ўсё забыта,
Бо недзе будзе сход і веча
Людзей, што неслі праз вякі
Нашчадкам волю.
Іх рукі
Патрэбная падтрымка ўсім!
І ты яе чакаў, Максім.

# ПАПЕРА-СУРАЗМОЎЦА

Ў сэрцы Бога не нашу
І на свет гляджу без веры,
Без маны сваю душу
Спавядаю на паперы.
Гэту споведзь-гаману
Ў паэтычныя памеры
Нетаропка апрану
І даверуся паперы.
Вір пачуццяў, думак стус
Пра памылкі і намеры,
Ды пра боль свой, бо не хлус,
Я пакіну на паперы.
Што тут праўда, што мана,
Дзе надумана без меры –
Не дазнаецца й яна,
Суразмоўніца папера.
І бывае, што сабе
Выплятаю з думак нерат,
І тады я рву цябе,
Звышцярплівая папера.

# НОВЫЯ БЕЛАРУСЫ

Ніхто не зведаў з іх прымусу –
Жылі сярод чужых і родных,
Цяпер за новых беларусаў
Іх палічыгў народ галодны.
Дзе вёска з горадам мяжуе,
Сцяной катэджы іх, бы злыя
І вельмі сквапныя буржуі,
На ранку горад акружылі.
У дом дзіцячы яны могуць
Паслаць скрынь колькі апельсінаў.
Газеты потым пішуць многа:
Якая змрочная часіна!
Ніхто не зведаў з іх прымусу,
Не галадаў і не пасціўся.
Хто ж вывеў новых беларусаў?
І “сорт” такі адкуль з’явіўся?
З тых, хто й цяпер каля карыта, –
Не рві, бядняк, на працы грудзі.
У іх заўжды ўсё шыта-крыта
Было з вякоў.
Няўжо й так будзе?

* * *

Паўсюдна рэжа слых: “дзярэўня”.
І не чуваць нідзе – “сяло”.
А ў слова мяккая напеўнасць
І... паламанае крыло.
– Бярыце пернікі – укусна, –
Бабуля мовіць да малых.
Салодзяць пернікі на вуснах,
Але ж “укусна” рэжа слых.
Галасавалі за двухмоўе
І атрымалі поўны друз.
Паслухай розум свой, шаноўны!
І прыгадай: ты – беларус!

# У ДЗІЎНАЙ ЗГОДЗЕ

*Мясам корміць цюцьку НЭП,*
*Я ж і сам брашу за хлеб.*

*К.Крапіва*

У дзіўнай згодзе з Рэксам, Лыскам,
З Жучкаю і з Бурым
Не ўсе, канешне, чыста.
Толькі ж брэшуць журналісты
І народ за грошы дурацць.

***

*У бубны дахаў вецер б'е.*

*М.Багдановіч*

Трапеча за нямым акном
Халодны сполах навальніцы.
Вялізнай пугай ляснуў гром –
Аж застагналі аканіцы.
Запалкай пстрыкнула на шкле
Маланка –
Срэбрам свет заліўся.
Залева ў бубен даху б'е.
І страх за комін затуліўся.

# ЖАЛЕЙКА

Муза ў пераходзе –
Сумная жалейка.
Я з дзяўча не зводзіў
Воч у захапленні.
Клалі людзі ў скрыню
Змятыя паперкі.
Жалю гаспадыня,
Як нам жыць цяперка?
Муза палявая,
Ой, душа у скрусе:
Што ж ты адпяваеш
Волю Беларусі?!

# ДАНОС

Як чорныя вятры задулі,
Залютаваў, запёк мароз,
Сынок туліўся да матулі
І з-за яе нудзіўся слёз.
І ціха хліпала капцілка,
І ў цемені пужлівы дзень
Чакала шэрая хацінка,
А як прыпаў да шкла прамень
Халодным, доўгім пацалункам –
Світанак груганоў прынёс,
І бацьку з невялічкім клункам
У Курапаты звёў данос.
Зязюля на бары кукуе.
Даўно сын маці пахаваў.
Сівы стукач жыве, жыруе...
Яшчэ Хрыстос на суд не зваў.

# АСКЕПКІ ДУМАК

Вароны – варвар – варажба.
Радзіма – рыдлёўка – раба.
Пакуты – пан – пагалоска.
Каліна – клін – Каліноўскі.
Турботы – турма – туга.
Дарога – дурань – дуга.
Кавярня – куля – Купала.
АМАН – амінь – арала.
Парыў – парламент – Пазняк.
Законы – злыдзень – знак.
Залысіны – зала – замова.
Маркота – мара – мова.
Халепа – хамут – хаўрус.
Багна – бездараж – Беларусь.

# АГОНІЯ ПАГОНІ

Самоту гэту чым адгоніш? –
Гарыць агонія Пагоні.
На доме велічным Урада
Штандар ужо другой улады.
Глядзіць з-за хмары сонца скоса,
І знае, хто застаўся з носам.

***

Ахвярую сваю галаву,
Пакладзіце ж у ногі Закону.
Буду я паслухмяны да скону:
Толькі хай узнясе булаву
І над тым, хто трымае карону.
Пакладзіце ж у ногі Закону
І маю, і яго галаву.

# ЭЗОП

Калі усход, як гнеў, гарэў,
Бадзяга мовіў: “Я – філосаф.
Я разумею словы дрэў
І спевы птушак, плачы росаў.
Не змог бы толькі ўразумець
Людскую мову, што прыкута:
Здаецца золатам, ды медзь
Заўсёды медзь...
Я ж боль і смутак
З нагоды гэтай адчуваю;
Хай мне праб’юць сякерай лоб,
Нямым не толькі спачуваю –
Зайздрошчу...”
– Хто ты?
– Я – Эзоп.

# ПЕЎНІ І ЖАБЫ

Ноч памірае. Плачуць жабы.
І ў памяці, як нікнуць сны.
Стаіць, дагэтуль поўны звабы,
Сюжэт з “Узнятай цаліны”.
Дзядок Шчукар, Макар Нагульны,
Я, як і вы, дзівацтваў раб,
Бо ёсць у нас імпэт агульны:
Вы пеўняў слухалі, я – жаб.

# ЭСКІЗЫ

***

Над горадам, бы дракон,
Завіс смог, злы, шэры, хцівы.
Чаму яго не палохаюцца людзі?
Чаму не звяртаюць на яго ўвагі?
Смог-дракон учарнеўся ад злосці.

***

Бадзячыя сабакі,
Вас б'юць,
У вас кідаюць камяні,
Вас абыходзяць і... баяцца,
Вам спачуваюць
І часам даюць нешта з ежы,
А вы не можаце ніяк зразумець:
Хто людзі – сябры ці ворагі?

***

Спусцелая трыбуна на плошчы.
Ёй абрыдла пустка ночы
І абыякавасць дня.

Часам на яе сагнутую спіну
Ускарасквающца ўкормленыя дзецюкі.
Яны нешта крычаць, як гурчаць,
А ўнізе шмат вачэй –
Злых, пакутных, галодных.
Трыбуну палохаюць гэтыя вочы,
І начная пустка падаецца ёй паратункам.

***

Чарада гарластых варон,
Дзе ваш пастух?
Дзе ваш чорны бог?
Не можаце знайсці спакою
Без уладнай рукі?

Як гэта падобна на людзей!

# ЗОРКА

Вунь зорка скацілася з неба
І знікла на хвалях крыніцы:
Напэўна, прыспела патрэба
Халоднай напіцца вадзіцы.
Магчыма, стамілася зорка
Гуляць па касмічных прасторах.
А можа, і ёй стала горка,
І вось утапілася з гора?

***

Ночка чорная ляцела
Ля шчырыцы шэрай.
Чуе: стому з зямлі цела
Рэчка п’е праз бераг.
І спыталася чарнота
У рачной вадзіцы:
“Ну, няўжо табе ахвота
Стомаю труціцца?”
Рэчка ночцы адказала:
“Тут адна нагода –
Гэткі лёс я атрымала
Ад маці-прыроды”.

* * *

Як цень з пакутай
У дзень спякотны,
Плыве мазута
Ракой самотнай.
Нясцерпна скрушна
Жывой вадзіцы:
Атрутай душнай
Трымцяць крыніцы.
Рачулку з горам,
Як хвалі ў брудзе,
Не прыме мора, –
Хай знаюць людзі!

## БУРАВАЯ

Не пачварных цмокаў зграя,
Вось пачвара – буравая!
Смокча кроў зямлі штодзень,
Кажуць старцы: быць бядзе.

## ГАРАДСКАЯ РЭЧКА

У бетоне бераг
Рэчкі неглыбокай –
Пах цвілы ў аерах,
Ні травы ў затоках.
Дзюбу на лазіне
Не памые пташка.
Рэчка ў брудзе гіне,
Уздыхае цяжка.
І цячэ вадзіца
Ціха вербалозам...
Асвятлі, крыніца,
Чалавеку розум!

* * *

Калі ідзеш улетку паўз балота,
То муціш рыжую, збруднелую ваду,
І смага спапяляе, і спякота,
А бачна, што крыніца за чаротам
У чорных зрэнках выспела бяду.
Падасца, што не стала раптам сілы,
І нейкі чорт папхне цябе туды,
Дзе знойдзеш сцежку да сваёй магілы,
Што кепска люду, і зусім не міла,
Калі пап'еш атручанай вады.
Падобнае ў жыцці, на жаль, бывае:
Бруд леваруч, а справа горшы бруд,
Які цябе "сяброўствам" атуляе,
Гарэлку п'е з табой і расстаўляе
Сіло, каб зведаць боль тваіх пакут.

***

Аброць на думку не накінуць,
Не зацугляць, нібы каня.
Нясём надзеі, успаміны,
Праклёны з роспаччу
штодня.
Яны нябачныя, як рэха,
Яны маўклівыя, што цень...
Зальецца думка раптам смехам
Ці згасне, як між хмар
прамень.

# СПАДАРОЖНІЦА ЛЁСУ

Не пытайце, не шукайце –
Не знайсці яе нідзе,
Хоць яна заўсёды ў хаце,
І кудзель з хвілін прадзе.
На пачатку сумнай ночы
Сон у хату заляціць,
Толькі спаць яна не хоча,
Як не хоча есці-піць.
І ў жыцці не замінае
Весяліцца, гараваць...
Неназойліва чакае,
Каб забраць і пахаваць.

## АНТЫБІЁТЫКІ

Чорная варона –
Весніца трывог.
Хлопчык-жаваронак
За-ня-мог!
На вусны і цела,
На рукі і лоб
Жарыня насела,
Пот густы, як боб.
Хвалюецца маці:
Як тут рады даць?
Ды ідзе па хаце
Антыбіётыкаў раць:
– Хвароба-бадзяга,
Рыхтуйся на бой!
Ёсць у нас адвага –
Біцца нам з табой!
І мы пераможам
Бактэрыяў злых –
Вясёлым, прыгожым
Будзе зноў малы!

* * *

Ад слоў сваіх не адракуся:
Тваіх, жыццё, багата стром.
Завяжаш ты складаны вузел,
І разам мы яго сячом.
І нават у адчайнай скрусе
Калі не ведаю, як быць,
Баюся, вельмі я баюся
Цябе, маё жыццё, згубіць.
Таму я роспачна дзіўлюся
На тых, хто свет пакінуў сам.
Жыццё, ты расслабляй свой вузел –
Не дазваляй такога нам.

* * *

Трапіла на сэрца
Кропля хвалявання –
Можа, веснік смерці,
Яе прывітанне?
Нудзіцца ў трывозе
Сэрца і гадае:
На якой дарозе
Лёс свой напаткае?
Адляціць на неба?
Ці ж падніме камень –
Маналіт з ганебных
І сляпых жаданняў?
Мо грахі цяжкія
Абламаюць крылы:
З валуном на шыі –
У падземны вырай?
Трапіла на сэрца
Кропля хвалявання.
Не баюся смерці –
Што з душою стане?

***

Усё з гадамі разгадаю...
Быў час, калі канца і краю
Я таямніцам не знаходзіў
Як у жанчын, так і ў прыродзе.
Здаецца мне у паняверцы,
Што таямніца – вочы смерці.

# ДЗЕНЬ

Па гарадах, па сонных сёлах
Вясёлы, сумны, часам злы
Праехаў дзень пад грукат колаў –
Надзеі развязаў вузлы.
І на яго глядзеў старэча
Слязлівым позіркам вачэй.
Асілак жа расправіў плечы,
Гукнуў паплечнікам: "Ямчэй!"
І толькі немаўля маўчала –
Піло матуліна цяпло,
І ў скрусе Вечнасць пазірала:
"О колькі так разоў было".

***

А надвячорак
На шлемы хвояў
Насыпаў зорак,
Зрабіў з іх вояў.
Вартуюць воі
Адзінства наша.
Над галавою
Іх ціхі кашаль.
На вершалінах
Паходня-поўня
І крык савіны
Працяў сутонне.
А мы ракою
Агністай страсці
Плывём з табою,
І нам не страшна.
Час безупынна
Ляціць у вечнасць,
І вось машына
Імчыць праз вечар
Ад дзіўных мрояў,
З краіны казак
У быт пакояў,
У царства масак.

* * *

Лес, палянкі, цішыня –
Так было і будзе.
Пах грыбніцы, і штодня
Дыхаюць ім грудзі.
У спакоі і цішы
Мрояць штосьці дрэвы.
Гоман блізка ля шашы,
Звоняць птушак спевы.
Тут спыняе вечнасць крок,
Спаталяю цела,
Спаталяю сэрца, зрок,
Каб душа запела.

***

Да шашы бягуць бярозкі,
Сёстры-елачкі, дубок...
Рухавік спявае ўзнёсла
І "даішнік" – цар і бог.
Падміргне зарнічкай рэчка,
Вецер за акном узвыў –
З коламі ўступіў у спрэчку,
А ў люстэрку – свет жывы.
Краявід заслоніць горад:
– Да сустрэчы, святлафор!
І далоняй здыме змору
З твару стомлены шафёр.

***

Між вёсак і бароў
Гудзе мая дарога.
У нас, як у сяброў,
Заўжды сакрэтаў многа.
Халоднаю зімой
Ці гэтай летняй спёкай
Заўжды яны са мной –
Паперадзе і збоку.
То хаты леваруч,
То праваруч – каровы.
Кручу я лёгка руль,
Вяду свае размовы
З палеткамі, з ракой,
З бярозкай і з барамі,
І на душы спакой,
Што лад такі між намі.

# НА ПОЛЬСКАЙ ДАРОЗЕ

Дарога доўгая, што роздум,
І раптам – хоць ты тармазі –
Бяжыць аселіцай бяроза,
Махае хусткай: падвязі!
Імчу далей пустым прасцягам,
А ў позірку бярозкі рух.
Яна мне гімн з дзяржаўным сцягам:
Бяроза – боль мой, Беларусь...

## З АКНА ТАКСІ

Ледзь павеяў вецер золкі,
Пацішэў жыццёвы вір.
Юнакоў ідуць суполкі
На вячэрні свой шпацыр.
А ў дварах непаўналеткі
Пачалі звычайны "вой".
Загулялыя кабеткі
Ног не чуюць пад сабой.
Ля гатэляў зух-малодкі
Між майстроў амурных спраў.
Рэстаран – вулей салодкі –
Гультаёў у рой сабраў.
А ў кватэрах познім часам
Сон работнікаў касіў,
І да золку пелі басам
Клапатлівыя таксі.

# АСКОЛКІ ШКЛА

Асколкі шкла.
Што гэта – крык
Ці снег, ці боль, ці лёс разбіты?
– Дачка машынаю забіта.
За што? – пытаў людзей стары.
І дапамогі драбяза
Яму з людскога спачування.
– Завошта Бог душу параніў? –
Паволі коціцца сляза.
Рытмічна тахкае матор –
Бяздумны, як прарок з граніту,
У клён вызваньвае малітву,
І што асіначка – шафёр.
Успыхваюць асколкі шкла –
Калючыя, як страх за волю:
Каб знаў – не сеў за руль ніколі
І мо б наўзбоч бяда прайшла.

* * *

Зіхаціць асфальтаваная шаша
Узбягае лёгка на пагорак.
Машына чыстая –
І чыстая душа.
І настрой цудоўны у шафёра.

* * *

На дарогу падвячоркам
Месяца скаціўся бохан –
На асфальце шэра-чорным
Барвяніўся цуд ад Бога.
І здавалася, што шпарка
Да яго мяне машына
Даімчыць.
І я без жартаў
На цуд-месяц стану шынай.
Зіхаціць дарогі стужка,
Месяц вабіць, як маліна...
І ўжо лес яго загушкаў
На высокіх вершалінах.

***

Вярэдзіцца душа напружана,
За сэрца неспакой бярэ,
А ў гладзі прыдарожнай лужыны
Спакой адлюстраваўся дрэў.

* * *

А сёння горад урачысты.
Пасля дажджу на вулцы чыста.
І нам, і лужынам празрыстым
Здаля ўсміхаліся таксісты.
Заходзім з сынам у цырульню.
Тут светла, сонечна, утульна.
– Вясну вы нашу пастрыжыце –
Цвісці ёй васільком у жыце;
І пастрыжыце нашу восень, –
Мы прыгажуню-майстра просім.

* * *

Прачнуўся светла-шэры ранак
І росы заплятае ў косы
Бярозкам. Сын, схапіўшы ранец,
На ніву – ведаў падшыванец! –
Пабег рабіць свае пракосы,
А сонца коціцца паволі,
Наводзіць глянец на машынах...
Свой бачу першы дзень у школе –
Я да яе бягу праз поле,
Ды не дагнаць мне свайго сына.

# КЛІЧ МОРА

Дзятву змагацца хвалі звалі –
І малайцы адрэгавалі:
Байцы трымаюць хвалю пузам,
Ляцяць крыветкі і медузы.
На сонцы пена срэбрам грае,
Гуляе мора, ох, гуляе!
А шторм гудзіць, а шторм звярэе,
Падобны трошкі на Падвея.
І хлопцаў з ног збіваюць хвалі,
І сын сказаў: "Перамагалі
Мы доўга іх, дываліць стома.
Мы госці тут, а мора – дома,
Мы тут адны, а хваляў колькі –
Адкуль яно іх коціць толькі?"

# ЛЕТУЦЕННІК

А я ўсё лётаю у сне
І адчуваю моц у крылах.
Жыццё, бывае, трасяне,
Дык ледзянее кроў у жылах.
Зноў ноччу месяц падміргне –
І зноў у чорта я на вілах.
А я ўсё лётаю у сне
І адчуваю моц у крылах.

# ВАДЗЯНІК

На ўскрайку лесу ззяе стаў:
З вады пацешна корч устаў.
Спыніў я крок: нага, рука...
І бачыць зрок вадзяніка.
– Цар вадзяны, ты тут жывеш?
Люляеш сны?
– Ане ж, ане ж ...
– Сам ты, як бачу, сталых год
Народжан поўняй
З сініх вод...
А на змярканні ты мастак
Палохаць дзетак?
– Гэта так...
– Відаць, твой незайздросны лёс?
– Начамі плачу
Я ад слёз.

* * *

Ні словам, ні справай,
Ні шчырай душой
Цяпер не паправіш
Час роспачы той.
Які ёсць набытак
З папрокаў і зла?
Што мелі – разбіта,
Згарэла да тла.
Душою канаю,
Стаю пры вярбе.
Няма канца-краю
Пякучай журбе.
Мільгаюць машыны.
Бруіцца жыццё.
Жанчына, жанчына –
Пракляцце маё.

***

А зорак ночка не паліла
І лямпай ветах не мігцеў –
Ну што ты гэтым часам сніла,
З кім на вячэры гаманіла,
Каму дарыла сумны спеў?
А я ляцеў стралой напятай –
Хацеў цябе павіншаваць.
Святло запальвалася ў хатах
І тысячы машын лупатых
Шлях не хацелі мне даваць.
Што ж, з днём анёла, дарагая!
Кручу руля, і гэта мне
То вецер пра цябе спявае,
То золак вунь на ўсходзе грае,
І ты сядзіш дзесь у акне.

## У ДАРОЗЕ

Я жыву ў трывозе
І гару, як свечка:
Зноўку ж у дарозе
Сустракаю вечар.
На тваіх далонях
Павуцінкі лёсу,
А ў мяне на скронях –
Дым далёкіх вёсак.
Погляд запытальны –
Вернешся ці хутка?
Грэе развітальны
Пацалунак смутку.
Не бядуй, вярнуся
Вечарам ці ранкам
На далонь схілюся
Я тваю ля ганка.
І зноў будзем разам
І душой і словам –
Зноў мяне прывяжаш
Ласкаю мядовай.
Толькі ж ці надоўга? –
Пазаве дарога.
Ноччу месяц строга
Пахітае рогам.

* * *

Жаданні трымаю на сэрцы.
Мо розум астудзіць спакусу?
Праз неруш лясную ў зняверцы
Іду да цябе без прымусу.
У вочах тваіх шэры ранак.
Ніякага шалу амураў.
Глядзіш на мяне, як падранак,
А лес толькі бровы нахмурыў.

## КРОК У КАХАННЕ

Шчырай, прыгожай, уладнай, лагоднай,
Крышку нясмелы зрабіла ты крок
У таямнічую неверагоднасць,
У вялікі жыццёвы урок.
Звала цябе сіла маці-прыроды,
Лёс з-за вугла націскаў на курок,
Толькі ж стамілася сэрца без згоды –
Ціха яснеў затуманены зрок.
Рукі за рукі, і сэрца да сэрца
У прадчуванні узлёту памкнецца –
Хай набірае разбег.
Вольнасць пачуццяў, адчуўшы раскутасць,
Мы ахвяруем каханню з пакутай –
Думкі і мэты, душу і сябе.

# ПОЗІРК КАХАННЯ

Позірк, які у душу пранікае,
Бачыць адданасць, дакор і ману;
Позірк дзянніцай цяпло нараджае
І ажыўляе вясну.
А пры сустрэчах штандарам лунае
Ды не згібае спіну:
Хвалю душэўнага спеву люляе,
Рухам калыша струну.
Гэтыя хвалі –квяцістыя далі,
Звоны крыніц і вяночкі Купалля,
Папараць-кветка ля пня.
Стаў ён вялікаю узнагародай,
Крокам да дзіўнай легенды народнай –
Позірк, народжаны сілай агня.

# ВЯЗЕНЬ КАХАННЯ

Чыстыя вочы, шэрыя вочы –
Непрадказальны палон.
Вочы пытаюць: быць вязнем ты хочаш?
Вязнем, дзе вочы – закон?
Будзеш слугою удзень і уночы,
Ды і ўладыкай, як звон.
Вочы гукаюць, каханы мой, крочым,
Крочым з каханнем на трон?!
Згодзен быць вязнем і нават тапельцам?
Крыкну – даруй! – нашай роднай
зямельцы.

Хваляй накрые вачэй глыбіня,
І адчуваю істотай: лячу я
У невядомасць, дзе днюе, начуе
Космасу даль, таямніц цішыня.

* * *

Стаіць празрыстая вада,
Бо дождж не ліў яшчэ,
І кроў, што ток у правадах,
Усё слабей цячэ.
Вада размыла мой спакой:
Я – свой, і я – чужы,
Такой маленькаю рукой
Распяты на крыжы.

***

Крочу сцежкай вядомай –
Вось тваё акно.
Той жа тапаліны гоман,
Што я чуў даўно.
Зноў у мройным карагодзе
Граюць жаўрукі.
Сёння з людам Бог у згодзе –
Бачыш, дзень які!
Думка грымнула у голаў:
"Дык зайдзі, не стой".
А другая мовіць квола:
"Пачакай, ты што?"
Знаеш, гэта лёс мой строгі,
І ты ў ім адна...
Ды няма, няма дарогі
Да твайго акна.

***

Я яе пабачыў
І цяпер – шкадую.
Толькі што не плачу:
Помню ж не такую.
Першае каханне
Па жыцці пранеслі,
Ды яе спатканнем
Вобраз перакрэсліў.

***

Абліла ты на Купалле
Мяне срэбнаю вадой.
Думаў я тады: кахання
Хопіць нам на сто гадоў.
Муж сабакам сена косіць,
Пасівела да ўсяго,
А ваду і сёння носіш
Ты з калодзежа таго!

## У ПАРКУ ІМЯ ГОРКАГА

Ты помніш лодачкі-арэлі?
Да вершалін з табой ляцелі
Чубатых клёнаў. І нямелі
З напругі ногі ад нядзелі.
Душа ж крылатая спявала.
Пагляд твой – сполах, захапленне...
Гарэзна потым жартавала:
– Ну што, калоцяцца калені?
І гучна музыка грымела,
І звала цемра таямніцца,
Каб з вуснаў слодычы напіцца.
Туды цябе павёў я смела.
Цяпер у парк зайшоў у госці –
Між дрэў разгульвае вятрыска,
Арэляў тых няма і блізка,
Самотна быццам на пагосце.
І на засмечаных алеях
Паглядам я шукаю штосьці,
Пачуць жадаю з маладосці:
– Ну што, калоцяцца калені?

## ТРЫЯЛЕТ

Я доўга да цябе ішоў
Праз пекла дзён, імгненні раю,
Але на лёс не дакараю,
Што нас ён гэтак позна звёў.
Лёс нам сумётаў панамёў –
Іх, як умею, разграбаю.
Я доўга да цябе ішоў
Праз пекла дзён, імгненні раю.

***

Жыццё, паклон, што ты вяло.
Юнацтва, дзякуй, што кружыла.
Іграў гармонік за сялом
І ноч на зорках варажыла.
Здаецца, так даўно былі
Спатканні ля ракі да рання.
Ляцяць між зорак журавлі –
То гэта ж наша развітанне
З наіўным святам шчырых мар
І з адшумелай маладосцю.
Гарыць кастрычніцкі пажар,
І восень мне сястра – не госця.
Глядзім з ёй горычна на ўсход,
Дзе ружавеецца дзянніца.
Маўчым пра боль сваіх грахоў
І знаем – выспеў час маліцца.

***

Валасы, бы крылы птушкі,
Погляд, як прадвесне.
Незнаёмец кінуў слушна:
– Не жанчына – песня.
– Супыніся ж, – ледзь не крыкнуў,
І яна ў імгненне
Усміхнулася і знікла, –
Дзе яе сустрэнеш?

* * *

Маё каханне – пакланенне
Адзінай велічнай Багіні.
Як лёс ні б'е, куды ні кіне –
А перад ёю на каленях.
Маё каханне – як служэнне
Уладнай дзіва-каралеве.
Яна і ў сонцы, і ў залеве –
Маё зямное прыцяжэнне.
Маё каханне – як жалоба
Да крохкае, слабой істоты,
Што ў клопатах жыве, турботах.
Ёй – дапамога і заробак.
Маё каханне – як дарога,
Бо без яе няма спакою,
Лёс жыць з пяшчотаю такою –
Вялікі дар ад пана Бога.

* * *

Твой гарачы пацалунак –
І крадзёж, і падарунак,
І шчаслівая мінута,
І пакутная атрута.
Дакарадь сябе я мушу,
Што хлушу штодзённа мужу,
І дакор, як пакаранне,
Горбіць думкі мне ад рання.

# ЭЛЕГІЯ

*(трыпціх)*

## I

Яна пайшла...
Яна пакінула
Адкрытую маю душу.
Яе, прывабную і мілую,
Забраў начы дакучны шум.
Я чую крок
Хвілін дрыготкіх,
Гляджу захоплена ў экран
На каляровую самоту.
Самота –
Пачуццё ці стан?
Там, дзе яна,
Грымяць трамваі
І месяц жоўты, што лікёр,
І роспачы іклáстай зграі
Ёй не паставіш у дакор.
Яна ж пайшла...
Яна пакінула
Адкрытую маю душу.

Яе, прывабную і мілую,
Забраў начы дакучны шум.

2

Я падышоў да таксафона,
Я ведаў: доўгія гудкі
Адкажуць мне халодным тонам –
У АТС свае законы,
Пачуццяў боль ніштто якім.
Над галавой гамоняць клёны
Замілавана ў вышыні.
Я гэтым вечарам зялёным
Званіў і лаяў таксафоны,
І голас твой у мроях сніў.

3

Ужо напяты лук тугі
Глухой тугі.
Ляжыць зламанае вясло
Прыгожых слоў.
Маё каханне паміж дрэў,
Відаць, памрэ.
Туман залёг у паплавах.

Крычыць сава.
Няма канца сляпой начы –
Хоць сам крычы.
Уецца думак валакно
Даўным-даўно.
Ужо напяты лук тугі
Глухой тугі.

***

Усё менш таямніц
І ўсё болей тугі –
Ля тваіх аканіц
Вецер вее снягі.
І пяшчоту тваю,
І жаноцкасць, і страсць,
Хоць і я тут стаю,
Забярэ – не аддасць.
Жар пачуццяў ачах,
І цямней вечары,
І прапаў у вачах
Бляск іскрысты зары.
Ля тваіх аканіц
Вее вецер снягі –
Усё менш таямніц
І ўсё болей тугі.

## КАРАЛЕВА

Нясу маленькай каралеве
І віншаванні, і душу.
Нясу па восеньскай залеве
На парасоне кропляў шум.
На вуснах радасная ўсмешка –
Увосень ажыла вясна.
Пераканаюся суцешна:
Найпрыгажэйшая яна!
А вочы – што цвіценне лёну! –
Блакітна свецяцца ў слаце.
З праменьчыкаў сваіх карону
Само ёй сонейка пляце.
Нясу маленькай каралеве
Гарачых слоў, напэўна, пуд,
Яна прывабная – у гневе,
Ну, а ў лагодзе – проста цуд!

# ЖАРТОЎНЫ ВЕРШ

Сон адрынуў. У адрыне
Я ляжу на сене.
Побач – любая Ірына.
А па сене – цемень.
Але вось і пасвятлела –
Дзень з'явіцца пэвен.
За сцяною звар'яцела
Загарланіў певень.
Хутка маці выйдзе з хаты –
Ох, каб не спаткацца!
Яшчэ горш сустрэцца з татам –
Трэба ратавацца.
Сон адрынуў. З-пад адрыны
Вёў я на задворкі
Золкай раніцай Ірыну,
І – згасалі зоркі.

## ГАРАСКОП

З таямніц блакітных зорак
Тчэцца ў вершы троп.
Джын з бутэлькі выбіў корак –
Гараскоп!
Ты чытаеш у газетах:
Хто той асталоп?
Жарт, вядома, але гэта –
Гараскоп.
Рак ці Леў. А, можа, Шалі?..
Як там ні было б,
Ярка зоркі напісалі
Гараскоп.
Летуценні і жаданні,
Ды мана, паклёп,
Ды на шчасце спадзяванні –
Га-ра-скоп!

* * *

Зноў каханка дакарае:
– Вершы мне не прысвячаеш.
Пішаш іх чужым кабетам.
Даражэнькі мой, за гэта
Я зраблю табе цэнзуру –
Знішчу ўсё пра шуры-муры!
– Што ж, давай мы, дарагая,
Вершы разам пачытаем.
Бачыш, тут вось рамантычнасць,
Тутака – алегарычнасць.
Ну, а там вунь – іншасказы,
З імі побач – перафразы.
На крыло, што лёгка стала,
Што гудзіць – не перастала,
Мае сэнс і мае званне:
Гэта – лірыка кахання!

* * *

Не збыткуй з мяне, дзяўчына,
Кпіны кінь, дальбог, паненка!
Я не здатны на спачынак,
Хаця шал гуляе ў зрэнках.
Не збыткуй з мяне, дзяўчына, –
Не прапаліш печ паперай.
Помніш: быў я малайчына,
І ў любві  не ведау меры.

***

Па белай дарозе вужакай сняжок –
Бліскучая стылая стужка.
Каханы на рукі узняць мяне змог –
Пагушкай, каханы, пагушкай!
Смяюцца з яго, як адзін, ліхтары,
Лагодзіцца месяц усмешкай.
Яшчэ нейкі крок – можа, два, можа, тры –
Мы сталі вялізнаю снежкай.
Па белай дарозе вужакай сняжок –
Бліскучая стылая стужка.
Каханы на рукі узняць мяне змог –
Пагушкай, каханы, пагушкай!

* * *

Хай бы добрыя намеры
Бог паклаў табе за дзверы,
Каб чужыя хваляванні
Зразумець магла ты ўранні,
Каб спазналася з самотай,
Што бадзялася ля плота,
Каб хоць раз пашкадавала,
Што мяне не цалавала!

## ПАМЫЛКА

Я думаў: будзе спаталенне
У ласцы рук тваіх суцешна
Родных;
Чакаў, што будзе разуменне
І да высноваў рух няспешна
Годны;
Жадаў, што будзе дапамога
І узаемная падтрымка
Сэрцаў;
І верыў, што ты мне ад Бога...
Цяпер як гэтую памылку
Сцерці?

* * *

Усё тое ж: тыя вочы,
Тыя вусны, тая ўсмешка.
Мы з табою побач крочым,
А мне – горка,
А мне – смешна.
Горка мне з таго, што ранне
Адгарэла – прыйдзе вечар.
Горка, што было каханне,
А цяпер так – недарэчнасць.
Смешна мне, што зноў я мару
Пра святло тваіх усмешак,
Што цяпер, пасля пажару, –
Ні вуглёў, ні галавешак.

* * *

Як глядзішся ты ў люстэрка,
Не лічы маршчынак.
Мерае не гэтай меркай
Свой узрост жанчына.
Пажадай жа быць прывабнай –
Заўтра будзе лепей.
Мастакі з фігуры зграбнай
Хай скульптуру лепяць.
Будзь пяшчотнай, будзь здаровай,
Дык і Бог сам гляне.
І павер ты мне на слова –
Час такі настане!

# АПОВЯД ЗАКАХАНАГА

Напэўна, я вар'ят
З пачуццяў і жаданняў –
Ну на які мне ляд
І рэўнасць, і каханне!
Пачуцці на ланцуг
Прымкнулі, прывязалі.
Ланцуг кручу наўкруг,
А крылы сілай склалі.
Я ад праблем ссівеў,
Даўно не чарнавусы.
Адам, навошта ж еў
Ты яблычак спакусы?!
Напэўна, я вар'ят
З пачуццяў і жаданняў –
Ну на які мне ляд
І рэўнасць, і каханне!

# ІСЦІНА СЯМЕЙНАГА ЖЫЦЦЯ

Яшчэ не раз, не два, не тры,
Не пяць і не пятнаццаць
З табой мы будзем гаварыць
Пра тое, як далей нам жыць,
І будзем зноў спрачацца.
"У спрэчцы ісціна, – казаў
Мудрэйшы самы ў свеце, –
Нарадзіцца".
І я чакаў. Гукаў яе. Яе шукаў.
А ісцінаю – дзеці.

# НА ВЯСЕЛЛІ

Паселі госці на вяселлі
За доўгі стол. Пілі ды елі,
А потым час не марнавалі:
Палілі, танчылі, спявалі...
Вяселле ёсцека вяселле –
Гулякі пакрысе хмялелі,
А я глядзеў на маладую
І адчуваў тугу глухую,
Якая сэрца халадзіла.
Хоць піў, ды нешта не хмяліла
Буйную галаву віно.
Злаваў вясельны гул даўно.
З чаго ўсё так? –
Сябе пытаю, –
Няўжо нагодай маладая?
Яна – нібы вясной вадзіца,
Ў паглядзе сінь нябёс іскрыцца,
А мне глядзіць у вочы восень...
Дык вось аб чым душа галосіць.
Вялікі келіх наліваю:
Будзь маладою, маладая!

* * *

Ой, зямля-царыца,
Княжна-маладзіца!
Сумная такая.
Раніцу гукае.
Ветах залаціцца,
Вёска весяліцца:
Вось яна – царыца,
Дзіва-маладзіца!
З пятніцы ў нядзелю
Коціцца вяселле.
Коціцца вяселле
Не з чароўным зеллем.
Не з чароўным зеллем
На куце згавелі:
Скончыцца й нядзеля,
Дзе ж канец вяселля?!
Ой, зямля-царыца,
Княжна-маладзіца!

# ПЕСНЯ СУМНАЯ ЛІЕЦЦА

*...Хто з любоўю не знаецца,*
*Той горя не знае.*

*(Украінская народная песня)*

Сонца ў мора акунецца,
Поўня узгуляе.
Песня сумная ліецца –
Дзеўчына спявае.
Ад самоты пані-ночка
Ціха уздыхае.
Галасочак, як званочак,
Сум-тугу люляе.
Сэрца чуйна страпянецца,
Шчасце узгадае:
"...Хто з любоўю не знаецца,
Той горя не знае".
Мора Чорнае не хоча
Слухаці з маркоты
Звонкі галасок дзявочы –
Хваляй топіць ноты.
Песня сумная ліецца –
Дзеўчына спявае:
"...Хто з любоўю не знаецца,
Той горя не знае".

# МУЗЫКІ

Ай, музыкі! Ну, музыкі!
Аж ляцяць да неба зыкі.
Адыгралі “Сербіянку”
Ды і ўрэзалі “Цыганку”.
Зіхацяць дзяўчатак вочы,
Нібы зорны рой уночы,
Косы-крылы узлятаюць –
Так музыкі файна граюць.
І старому не стаіцца:
Гэткай музыкі напіцца!
З плеч гады ўраз пазляталі –
Маладыя ў круг пазвалі.
Прыпусціўшыся у скокі,
Рукі ставіць ён у бокі.
Ай, музыкі! Ну, музыкі!..
Аж ляцяць да неба зыкі!

***

Пташачка-канарэечка
Адспявала.
Пекная кабетачка
Адкахала.
Сэрцайка-горачка
Адбалела.
Вабная і гордая
Адгарэла.
Спакой-самотачка
Агарнулі.
Пачуцці лодачкай
Адплылі-заснулі.
Ды зрэдку ночачкай
Сляза гарачыць,
Падушку змочвае,
А муж не бачыць.

## РАЗЛАД

Дакор гарыць.
Адзіны крок –
І я між крыг,
Між сосен трох.
І я ў тупік
Прыйшоў, бы ў сне,
Хоць свет вялік –
Ды цесна мне.
Я і цябе
Ўзвёў на абрыў.
Там у журбе
Дакор гарыць.

***

Каханне наша горкае,
Як чорны шакалад,
І неспакой агортвае
Узлёт яго крыла.
Вясновай крочу вуліцай
І думаю, як быць:
Кахаем, рызыкуючы
Каханне загубіць?
Будуем замкі мройныя
З паветра і пяску.
Выразныя і стройныя
Да тых часоў, пакуль
Іх не знішчаем спрэчкамі –
І мрояў тых няма.
Туман плыве над рэчкаю
І ў галаве туман.
Каханне наша горкае,
Як чорны шакалад,
І неспакой агортвае
Узлёт яго крыла.

* * *

Нясе рака ваду да мора
Праз сонца ўсмех,
Праз мроі зорак.
Вада не зведала тугі –
Яе спазналі берагі.
Вада – жыццё. Яна віруе,
Калі буран яе цалуе...
Маўчаць самотна берагі,
Як два каханні, дзве тугі,
Якім чыімсьці злым указам
Ужо не быць ніколі разам.

* * *

Я піў і піў яе каханне,
Ішоў туды, куды вяла.
Ці думаў я, што час настане
І я скажу: яна была.
Была... Былі каханай рукі.
Агонь на вуснах.
Шчасця смех.
Душы расхрыстанае гукі.
Хвілін таропкі, шпаркі бег.
Я піў і піў яе дыханне.
А зараз хоць ты плач:
Ушчэнт разбілася каханне,
Як той гарлач.

* * *

Маё каханне, я памёр,
Я ссох, як змучанае дрэва,
Ахвярай стаў змяюкі чрэва –
Ці закране цябе дакор?
О, як пакутаваў жа я! –
На вуснах мёд тваіх быў з ядам,
І ў горычных тваіх паглядах
Глядзела на мяне змяя.

***

На мяжы агіды і кахання,
Узаемнай згоды і разладу;
На мяжы расстання і спаткання,
Сцішанай пакоры і загаду;
На мяжы добромыслу і злосці,
На мяжы спакою і адчаю
Давялося быць мне, давялося...
Лёс за гэта я не дакараю.

***

Мне апякае сэрца горыч:
Напіўся я тваёй маны.
А вось, глядзіш ты, крочым поруч –
Няўжо да самае труны?
Каму сказаць?
Хто дапаможа?
І выйсця з гэтага няма.
Часін ліхіх чакаць,
А можа,
Адпусціш ты мяне сама?..

* * *

– Навошта жыве каханне?
Пачуццяў каб біўся танец?
Каб радасць была спатканняў?
Жыве і пяе каханне.
– А здрада чаму, васпане,
Страляе ў спіну каханню?
– Тут лёсу наканаванне:
Камусьці быць птушкаю каняй.

* * *

Сну няма. Цябе няма.
Ноч – як чорная турма.
Рук няма тваіх і пахаў.
Вецер грукае па даху.
А як гляну я ў акно –
Поўня ў шклянку лье віно.
Твае ж вусны – як маліны.
Песня – смутак журавуліны.
Сну няма: цябе няма.
Ноч – як чорная турма.
Толькі вочы закрываю –
Цябе бачу, адчуваю...

***

У вечнасць альбо ў нябыт
Хвілін таропкіх крок?
Імгненні, што з табой я быў, –
Вадою у пясок!
У шэрых вочах ціхі сум –
Мяне не дакарай:
Я сам дамоў тугу нясу
Праз летуценны гай.

***

Спынюся я на раздарожжы,
Адчуўшы колкую бяду:
– Усемагутны, мілы Божа,
Не знаю я, куды іду.
І што раблю?– ці справядліва?
Але ж раблю, трываю боль.
Я спадзяюся быць шчаслівым,
Ды скрозь маўклівая юдоль.
Каля мяне вятры балбочуць
Пра грэх мой і пра страшны суд.
Я лёсу зазіраю ў вочы –
І бачу смерць, яе касу...
Я знаю галавою срэбнай:
Плаціць мне прыйдзецца ўначы
За асалодную ганебнасць
Жыцця ў абдымках дзвюх жанчын.

# АПОВЯД ПАСТУХА

У суботнюю спякоту
Выйшаў да ракі.
З ног самлелых скінуў
боты,
Пугу зняў з рукі.
Раптам бачу: ля чарота
Голыя жанкі.
Я прылёг, як кот, за боты –
Трэба ж, цуд такі!
Так ляжаў, заліты потам, –
Аж раскрыўся рот,
А мае каровы-зброды
Сунуліся ў брод.
А за бродам канюшына –
Мара зброд-кароў.
Эх, жанкі, мае жанчыны, –
Каб я быў здароў...
Так я справе сваёй здрадзіў –
Не прайшло дарма:
У аўторак на нарадзе
Штрафу атрымаў.

***

У мора характар жаночы –
На мора я доўга глядзеў.
У мора пяшчотныя вочы –
Пяшчота да шчасця вядзе.
Яшчэ я заўважыў, што мора,
Як хваляй тугой, загудзе,
Адорыць нядоляю-горам –
Шмат злосці ў салёнай вадзе.
Я бачыў, як мора не хоча
Нібыта прачнуцца – устаць.
І хваляю сонна пляскоча –
Прыкінецца мора мастак.
У мора характар жаночы,
Бясконцай яго глыбіня.
Цалуюць вятры мора ўночы
І гінуць удзень ад агня.

# КУРОРТНАЕ КАХАННЕ

З далёкай сонечнай Кіргізіі
Нёс самалёт на Беларусь
Яго з салодкаю правізіяй –
І заязджаў за вуха вус.
Гадзіннік стукаў да сустрэчы –
Ён з асалодай уяўляў
Лімонныя каханкі плечы
І рай, што будзе апасля.
І вось зямля да сэрца блізкая,
Бо на яе ён з неба стаў.
Таксісту буркнуў: “На Мянжынскага”,
Рублёў памятых скрутак даў.
Таксі ляцела зухавата,
Лагодзіў вока дзіўны край.
– Спадар, які там нумар хаты? –
Спытаў таксіст.
– Сто тры, – шукай.
Як супыніліся, з анёламі
Ён па прыступках заскакаў.
Адтуль жа з лямантам, праклёнамі,
Што кот з-пад лаўкі, вылятаў.
Бет да машыны, як па склізкаму,

У гневе кулаком затрос:
– Табе казаў я на Мянжынскага,
Ты ж на Дзяржынскага прывёз...
Як ні было – далей імчалі
І зноў "удар па галаве",
Бо на Мянжынскага сказалі,
Што тут такая не жыве.
Шукаў адказы на пытанні
Наш Дон-Жуан і карак цёр,
І на курортнае каханне
Урэшце плюнуў і расцёр.

***

Вячэрняй вулкай,
Дзе ліпы-пані,
І на душы
Б'юць крокі гулка.
На скрыжаванні
Кавярня – жык!
Швейцар пузаты
Сустрэў, як брата.
Яму – сваё.
Адміністратар,
Што поп кудлаты,
У кут завёў.
Каньяк і кава
Зрабілі справу,
І я – ажыў.
Развесяліўся,
Зусім пазбыўся
Журбы з душы,
І мне суцешна,
І вельмі смешна,
Што там, пад плотам,
У п'яным стане
Кляне каханне
Мая самота.

* * *

Пазнаёміліся ў ліфце
Гатэля "Ізмайлава".
У руцэ клёна лісцік,
Погляд спадманлівы.
Надвячоркам ціхім
Пілі шампанскае,
Размаўлялі пра кнігі,
Пра лёс сям'і царскай...
Праз фіранкі ў вочы
Глянуў месяц падковаю.
Цудоўна, што ночы –
Доўгія, выпадковыя.
Праз дзень адважна
Падымаюся пехам.
Сказала "этажная":
– Красуня з'ехала.

# НАДУМАНЫ ЎЧЫНАК

І вось ён, час і дзень спаткання –
Уцёкаў ад сапраўднага кахання.
Каго я падмануць хацеў – цябе, сябе, яе?
Вячэрні змрок лікёры з намі п'е.
За нас! За шчырасць! За каханне! –
Мы кажам тосты. Звар'яцелы танец
Пачуццяў, думак. Сэрца боль апёк,
І я не вытрымаў – уцёк.
Утульны змрок, пяшчотная жанчына,
Прабачце за надуманы учынак...

## ВЕРАЛОМНАЕ ШЧАСЦЕ

Зачапіўся лісток
За вятрыскаву грыву.
– Вось ён, велічны крок, –
Пасміхнуўся шчасліва.
А вятрыска імчыць,
Дый шалее, віруе...
Не ўтрымаў – адпусціў
Ліст істоту жывую.
– Вось і ўсё – і аджыў...
А я так спадзяваўся!
Сустракайце, крыжы!
Ліст упаў і застаўся
На граніце ляжаць
Там, дзе ціш і бясчассе,
Як адзнака, пячаць
Вераломнага шчасця.

# ВЕРНАСЦЬ КАХАННЮ

І праз асеннюю слоту, праз вёсны,
Праз навальніц-карагод з-пад гары
Нашу адданасць і нашу узнёсласць
Разам цяпер панясём ад зары.
Бо для дваіх у каханні дарослых
Птушкі пяюць у бары,
Месяц хітае бародкаю вострай,
Сонца зіхціць угары.
Зорка, якая згарэла на ўзлёце,
Камень-валун, ап'янелы у слоце,
Вам не хапае двух вёслаў –
Вёслаў, каб плыць у лодцы кахання,
Жыць і гарэць ад рання да рання,
Шляхам жыцця шчасця несці узнёсласць.

# СНЕЖНЫ ЎСПАМІН

Неба сыпле снегу ватай,
Белай вапнай беліць хаты,
Мроі будзіць і здзіўляе;
І ад краю і да краю
Кружыць, танчыць завіруха –
Спеў яе злавіла вуха.
Нагадаў спеў гэты ранне
І адказ твой на прызнанне:
"Не", – сказала ты лагодна.
Твой адказ й цяпер халодны.

# МАНАЛОГ НЕЗНАЁМЦА

За доўгае сваё жыццё
Меў выпадковых і каханых
І цалаваў нецалаваных –
З таго меў мёд і меў асцё.
Дзівак, было б тады знаццё,
Ў сям'і знайшоў бы асалоду,
А я ж бадзяўся год ад году
І, як ручай, бязвольны цёк.
Цяпер каму патрэбны я,
Калі, як кажуць, дагуляўся.
Збрыднеў, адзежай абтрапаўся,
Ды і ў кішэні ні "кап'я".
Хай келіха не сохне дно!
Хай дорыць мне ваду жывую!
Цяпер яе не п'ю, цалую –
Раней я не любіў віно.

# ЗОСЯ

Скажы: ну, дзе так заблудзіла
Тваё няўцешнае каханне?
Ты абдымала мяне: “Мілы,
Цябе згадаю на світанні”.
Гадоў прайшло ні пяць, ні восем,
Цяпер у снах блакітных бачу
Тваю пяшчоту ў золак, Зося, –
Скупой слязой на ранку плачу.

* * *

Гэта сталася падвосень:
Напаткаў цябе я, Зося.
Аб чым марыў – не збылося,
Бо згубіў таксама ўвосень.
Вецер вечарам прыносіў
Ліст кляновы – і здалося:
Праз імжу гадоў далёкіх
Я адчуў твой дотык лёгкі.

***

Не чакаў тваіх прыветаў –
Нават думкі не трымаў,
Ды, цяплом душы прыгрэты,
У сілкі твае папаў.
І цяпер я крочу чынна
За спадніцаю тваёй.
Слёзы лье сяброўка Ніна,
Дый смуткую сам па ёй.
Поіш, корміш мяне сыта:
Як у хлеўчуку вяпрук
Лыч усунуў у карыта –
Так прыбраны я да рук!
Я цяпер, як ноч настане,
І спачнеш ты ў ціхім сне,
Абмяркоўваю пытанне:
Як даць драла па вясне?

# ЯНА І ЁН

Яна сказала: ты чужы
Ідзі дамоў, да дзетак, жонкі
І болей, чуеш, не кажы
Слоў залатых, гарачых, звонкіх.
Яшчэ сказала: не тлумі,
Не рві душу і боль без меры.
Хутчэй усю мяне вазьмі,
Альбо вось Бог, а – вунь і дзверы
Ён адказаў: ну што ж, даволі –
Не ўбачыш ты мяне ніколі.

* * *

Неспакой на схіле ночы
Клыпае бадзягам.
За плячыма месяц воўчым
Вокам ці мо сцягам?
І звініць на тонкай ноце
За гульбу адплата.
Крочу я на адзіноце.
Людзі спяць у хатах.
Ліхтары з мяне рагочуць
Смехам жоўта-звонкім.
Кажуць мне, што бачыць хочуць
Кій на ўзлёце ў жонкі.

# КАЛІНА

Ой, дзяўчына, Ой, каліна! –
Горка і спакусна.
Смутак спее жураўліны
У вачах, на вуснах.
Прадавала, кажуць, цела
Вабная дзяучына?
Вось таму і загарчэла
Спелая каліна.

* * *

Хлопцы-эфіопцы
На дарозе чынна
Прыпынілі сонца –
Рыжую дзяўчыну.
Снег зубоў халодны,
Полымя далоняў,
Быць яна не згодна
У такім палоне.
Мурыны ж смяюцца:
Купім, што захочаш –
Зможаш апрануцца
Усяго за ночку...
Косы залатыя,
Вочы – як азёры:
Хлопцы, вы чужыя,
Чорныя, што гора...

# ПАДВЁЎ ЦЕСЦЬ

Займеў я сына і распіўся –
Цяперка што рабіць,
Калі з калейкі хутка збіўся?
Ну, хоць сябе забі!
Смяецца сябра: "Ухваляю.
А грошы – ці ж бяда!
Яшчэ заробіш... Ну, гуляем?"
Да слова ж – ой, лайдак!
Ён кажа: "Маю прапанову:
Ламаць мы будзем бэз
Для дэбет-крэдыт установы".
"Які, – пытаю, – сэнс?"
"Вялікі сэнс, браточак! Кветкі
Ёсць ключык залаты
Ад сейфаў – сэрцайкаў магрэтак,
Старых і маладых".
Не ўразумею, як згадзіўся
На глупства гэта я:
Да цешчы з бэзам уваліўся...
"Дарэмны камуфляж, –
Яна сказала надта сумна, –
Я на віно не дам,
Бо цесць твой гэткі ж вось разумны,
Знаходлівы лайдак..."

# ВАЕННЫ ЖАРТ ДЗЕДА ЦЯРЭШКІ

Бой ішоў апошняй сцежкай –
Хутка ў вёсцы будзе воля.
Землякоў сваіх Цярэшка
У бліндаж схаваў на полі.
Раптам немца гіргатанне –
Жахам сцялася сутонне
І адзінае пытанне
Непакоем біла ў скроні:
Што як знойдзе? Што як знойдзе?..
Вось і бот грыміць даўбешкай:
– Ну, пакутнікі, выходзьце!
Перамога! Я – Цярэшка.
Разам людзі загудзелі:
"Валацуга! Біткі варты.
Ледзь ад страху не самлелі...
Псюк стары, прыдумаў жарты!"

* * *

Вы ў матулі не пытайце,
Дзе яе сынок?
Боль душэўны не гартайце –
Адляцеў лісток.
І на сэрца адзінота
Каменем ляжыць.
Старасць – вечныя турботы,
Трэба неяк жыць.
Сына ж дзесь жыццёвы вецер
Кінуў у Сібір.
Валіць лес там яе Пеця
Між сяброў-задзір.
Не пытайцеся ж у маці,
Дзе яе сынок?
Цішыня змятае ў хаце
Пацеры ў куток.

## ЛЯВОНАВА ДАПАМОГА

Ледзь расплюшчыў ранак вейкі,
Як здымаў касу Ціт з бэлькі.
Накляпаў яе чын-чынам
І на луг пабег лагчынай.
Гляне сонейка суцешна,
Як паўзе пракос няспешна,
Як макрэюць Ціту плечы...
А сынок Лявон на печы,
З горада які прыехаў,
Спаў матулі на пацеху.
Маці снедаць падавала
Ды і ў келіх падлівала.
Умінаў Лявон прысмакі –
Апетыт, як у сабакі!
Маці мовіла: “Сыночак,
Ляж у садзе ў халадочак!”
Сын радном ад мух прыкрыўся –
Храп на ўсё сяло разліўся.
Як з касьбы стары вярнуўся,
У садку Лявон прачнуўся:
– Ну, напэўна, я паеду...
– Сынку, як жа без абеду! –

Так бацькі яму казалі,
Калі торбу пакавалі.
– Падыму я хоць і тону! –
Стала весела Лявону.

Паляндвіца, яйкі, сала.
Толькі вось каса стаяла.

# АПОВЯД РАСЕЙСКАЙ БАБУЛІ МАРУСІ ПРА СВОЙ ШОП-ТУР ПА БЕЛАРУСІ

Ой, Крычаў! Там процьма балот...
Глядзела – замлела рука.
Мяне не стаптаў ледзь народ,
Што хваляю пёр з цягніка.
Дзевяты дзесятак гадкоў
Жыву я на грэшнай зямлі.
І ведаю: з даўніх вякоў
Былі мы сваімі людзьмі.
У Крычаве таннай цаной
Хлябок, і мае землякі
Цягнулі заўжды за спіной
Хлеб – мяккі і смачны такі!
Падумала я: ці ж мяне
Скруцілі дашчэнту гады –
З чыгункі на ўласнай спіне
Мех зрэбны дапру хоць куды.
Ой, Крычаў! Там процьма балот...
Сынок, ты мне, грэшнай, павер!
Скакала казой цераз плот,

Як спудзіў міліцыянер.
І што адбылося з людзьмі?
Гібеюць у злосці сваёй.
Здаўна не чужымі былі...
Ды вось разжыліся мяжой.

# РАЗМОВА НА ПРЫВОЛЛІ

“О, колькі сёння змагароў
На брудных кухнях чэшуць воллі”, –
Казаў Пятрок. Я з ім кароў
Ля рэчкі пасвіў на прыволлі.
Пятрок са слоіка хлябтаў
Віно і грыз аполец сала,
Ды нечакана запытаў,
Відаць, аб тым, што турбавала:
“Чуў, ты – паэт, браток, скажы,
Як можна выбівацца ў людзі?
Кладуць ханыгі віражы –
Жыруюць у грашах і блудзе.
Крычу на кухні – аж дрыжыць
Цесць з цешчай. А які прыбытак?
Хачу багатым быць і жыць,
Як людзі мовяць, ля карыта...”
Што на такое адказаць?
Кажу: – “Пятрок, крычы паболей –
Мацней чым будзеш горла драць,
Тым больш адчуеш п’янай волі.
А час прысвісне – не зявай,
Лезь на высокую трыбуну.

Хлусі, лупцуй і выкрывай,
Хвалі былое і камуну.
Я ж пра цябе – хвалебны верш,
І станеш у дзяржаве першым,
І мне аддзячыш ты найперш –
Падорыш "Мерсэдэс" за вершы".
"Ну, прайдзісвет, ты тваю мацць, –
Скруціў пад нос мне Пецця дулю, –
З маіх стараннняў жыраваць?..
Ды б я такіх, як ты, – пад кулю".

# ЖЫЦЦЁВЫ ІДЭАЛ ДЗЕДА ФЯДОТА

З нас кожны выбраць вольны
Жыццёвы ідэал –
Камусьці ён застольны
Вясёлы зух-кагал.
Для іншых ён – багацце
Альбо высокі чын.
Для трэціх ён – бюстгальтар
Ці боты для жанчын.
Адны яго ў вандроўках
Шукаюць з году ў год.
– Мой ідэал – рыдлёўка! –
Сказаў мне дзед Фядот. –
Мо хто і пасмяецца –
Люблю я агарод,
Мне лёгка з ім жывецца,
Як кажуць, з году ў год.

# НА РЫБАЛЦЫ

У задуме дрэвы каля буды.
Плёснула ў цішы вясло з узмахам.
Назірае золак, як з-пад вуды
Карасёў цікуе Саламаха.
А ў кастрышчы тлее паўлясіны
І казан пусты глядзіць з надзеяй.
Віртуозны пошчак салаўіны
Разбудзіў самотнага Гардзея.
Высыпаюць пацеркамі росы,
Цішыня брыдзе павольна полем.
Ля цепельца ходзіць класік босы –
На азерца паглядае з болем.
– Эх, рыбалка! І прынады – прахам!
Пара плотак, карасёк, бы прышчык, –
Шкадаваў Валодзя Саламаха. –
У казан бы кінуць што на днішча!
А Гардзей азваўся: – Маеш грошай –
Зловім рыбу на шашы між соснаў.
Слухай лепей салаўіны пошчак
І не зыркай вокам гэтак злосна.

* * *

Ёсць усяму свой дзень і час,
Ідзе жыццё па крутаверці.
Памру – папхнуся на Парнас,
Хто там: Багі? Паэты? Чэрці?
І можа пашанцуе мне:
З Селенай вып'ю, а Венера
Мне па-сяброўску падмігне
І Зеўс ускрыкне: "От, халера!"
Купала тут, і Колас тут,
Але каб глянулі зычліва,
Дык я, схаваўшыся ў закут,
Ім наварыў бы бочку піва.
Ёсць усяму свой дзень і час,
Ідзе жыццё па крутаверці.
Не дзеля славы на Парнас,
А паглядзець залезу, верце!

***

Не апошні я, не першы
З тых людзей, што пішуць вершы
І пад раніцу ў цішы
Спавядаюць стан душы.
Мо й не стала быць паэтам:
Пашкадуе хто пра гэта?
Шмат на свеце песняроў,
Што спяваюць – будзь здароў!
Буду й я сам ладзіць дудку,
Каб зайграла на пабудку.
Зразумець жыццё хачу –
Песняй з неба заплачу.
Зазвініць жаўрук мой летам.
Скажуць людзі: "Ён – паэта".

# ПРА МАРЦ НЕШЧАСЛІВЫ

*Хто ў марцы нарадзіўся,*
*Нешчаслівы будзе...*

*Ф.Багушэвіч*

Хто ў марцы нарадзіўся,
Нешчаслівы будзе.
Ну, прарок, каб ты сказіўся –
Выбачайце, людзі.
Бурачок Мацею, браце,
Выбачай таксама.
Ксёнжак мне тваіх не браць бы
У мастацкай краме.
Мо тады б не знаў, не ведаў
Пра марц нешчаслівы,
Мо мяне б мінулі беды –
Восеньскія слівы.

# КАНЕЦ ЛЕТА

Духмяных траў рознагалоссе
Плыве з туманам ад ракі.
Касец траву нястомна косіць,
Беразняком крадзецца восень,
Даль аглядае з-пад рукі.
Дзятва, апаленая сонцам,
Рачны пакінула разгул.
Звініць струменьчык у даёнцы,
Спявае сольны гімн буронцы
З чырвонцам клёна на рагу.

***

Хмара сонца праглынула,
Стала важнай парадзіхай:
Разамлелая, заснула –
Месяц ціха нарадзіўся.

***

За далёкімі лясамі
З боку ў бок хістаўся гром,
І глухімі галасамі
Ныла воблакаў нутро.
Летуценна стылі цені,
Зіхацела неба сінь.
Верасень схіліў калені –
На вальс восень запрасіў.

* * *

А лоб такой варожай
Кранула ноч рукой.
Затупаў гулка вожык –
Зняў з сэрца неспакой.

***

Лашчыцца мне ў вочы
Восень пасля ночы.
Котачкаю рыжай
Даль туманы ліжа.
На пустых палетках,
Жоўтых ад лістоты,
Танчыць танга ветрык –
Адчуваю дотык
На душы і ў сэрцы
Сумнай прыгажосці...
Выйдзе час памерці,
Дай жа Бог – увосень.

# ТРЫЯЛЕТ

Ліецца пеннае віно,
І пераходзіць дождж у слоту,
І, навяваючы самоту,
Ліецца пеннае віно.
Душы маёй не збыць гаркоту
Аб тым, што страчана даўно,
Ліецца пеннае віно,
І пераходзіць дождж у слоту.

* * *

Ляцяць гады,
Як чорныя вароны,
Над краем,
Над чарнобыльскай бядой.
Туман ці дым
Ахутаў клёны?
Ў агні бярозы,
Сцятыя жудой.
Ляцяць гады,
І толькі боль начуе
У вёсках апусцелых і панурых,
І правады
Гудуць з таго, што чуюць,
Як восень ладзіць
Раннія хаўтуры.
Ляцяць гады...

* * *

Прытуліўся холад
Да цяпла хаціны.
Цішыня наўкола.
Холад сірацінай
У акно скрабецца,
Грукаецца ў дзверы:
– Ну, пусці пагрэцца.
– Хто табе паверыць?
Я твае намеры
Ведаю, пракляты:
Хочаш жыць тут зверам, –
Адказала хата.

* * *

Рака паблісквае бурштынам.
Шамрэюць на грудах бярозы.
Пра летні час іх успаміны
І росныя на голлях слёзы.
Зноў крочыць восень па палетках,
Тырчаць чубатыя абмежкі,
Што раніцаю непрыкметна
Пазбавяцца самоты снежнай.

* * *

Увосень мала хто шчаслівы:
Пара самотных развітанняў,
І вечар гасне палахліва,
Анучай вісне на паркане.
І смех шчаслівы захліпнуўся –
Як рана, Божа мой, як рана!
Ударыў лёс. Я пахіснуўся...
Вярэдзіцца душа-падранак.

***

Агеньчыкам барвовым
Да траваў без прынук
Лісток прыліп кляновы,
Як да бабулі ўнук.
А з провада варона
Бы знак дала бядзе,
Пракаркала: “Сын клёна,
Твая пр-рыпіска дзе?!”

* * *

А рукі дрэў да неба
Па восеньскай журбе –
Нібы людскія: – Хлеба! –
Ускінуты ў мальбе.
Ды неба спраў не мае
Да дрэў і да людзей,
Самотна абдымае
Пакутнікаў надзей.
Удалеч шле сурова
Аблокі-караблі,
І ў неба ёсць выснова,
Што хлеб – дзіця зямлі.

# ДВАЦЦАТЫ ВЕК

Не супыняецца жыццё,
І дні, у час разліваў,
Цякуць імклівым ручаём –
Дзе сумна, дзе шчасліва.
Б'е чалавек крылом падзей
У велічным Сусвеце.
З кійком дваццаты век ідзе:
– Бывайце, – кажа, – дзеці!
Для вас я шмат чаго зрабіў,
Стаміўся вельмі... Годзе...
Чуваць плач рыжых арабін
І – восень на зыходзе.

* * *

А восень ціха адгарэла –
У прыску адцвілі вуглі.
Цягнік ляскоча ашалела:
Ён звозіць восеньскія дні,
І мне ў самоце падалося,
Што не дагнаць цягнік жыцця
І не вярнуць паэтку-восень
Як не крычы ў нямы прасцяг.

* * *

Крыштальныя свечкі бяроз –
Іх запаліў мароз
Сонечным прамянём.
Дзень – залаты анёл –
У бела-блакітны прастор
Крылы свае прасцёр.
Сэрца бярэ ў палон
Ява, што дзіўны сон.
Божа, няўжо прыгажосць
Гэткая ў свеце ёсць!
І спачуванні таму,
Хто не пабачыў зіму –
Як сінім агнём гарыць
Холад яе угары.

***

У завею мора
Без канца і краю
Коціць хвалі. Порах
Іх ля ног згарае.
Сыпле ў мора з неба
Бог, зусім сівенькі,
Белай соллю-снегам –
Дзе каўшом, дзе жменькай.
Хвалі ж карагодзяць,
Сквапна снег каўтаюць,
Дый п'янеюць, грозяць,
Выюць, праклінаюць.
Недзе ў нетрах неба
Лён спакою спее –
Знішчыць ён ганебнасць,
Зло, саму завею...

* * *

У белай замеці снегоў,
Згадаўшы майскую квяцістасць
Вясновых маладых садоў,
На сэрцы сцелецца ўрачыстасць.
Каб снегу белі не было,
То ці жыла б садоў квяцістасць?
У холадзе завейных слоў
Мой розум спасцігае існасць.
Мой розум хоча разгадаць:
Чаму барвяніцца світанак,
Чаму аснова сіл – вада,
І кім жывы сусвет сатканы?
Пытанняў мройны снегапад –
З дзятвой вялікае адзінства,
Той найкаштоўнейшы пасад,
Што сталасці дало дзяцінства.

* * *

Марозным днём,
Калі на дрэвах
Снег крохкі,
Быццам забыццё,
Самотныя мяцеліц спевы
Напомняць воўчае выццё.
Няма, здаецца, спатalення
Пачуццям, думкам.
Дзіўны сон
Сусвет лянотай абпраменіў
І бачыцца бясконцым ён.
І апусцеў мой белы горад,
І на азяблага мяне
Са здзекам летнія узоры
Глядзяць
З фіранак у акне.

## ВАЎКАЛАК

Ноч паўзла павуком,
І ў яе павуціне
Стаў хлапчына ваўком,
І па снежнай даліне
Хутка бег ваўкалак.
– Ваўкалак на дарозе! –
Хтосьці крыкнуў. Страла
Загула на марозе,
І ляжыць там, дзе бег,
Воўк і жудасна вые.
Паляцелі на снег
Знічкі з воч залатыя,
Загучаў звонкі смех
Светлавокай крынічкі,
Як вітанне вясне
Там, дзе бліснелі знічкі.

***

Каторы дзень завеі выюць,
Як у Піліпаўку ваўкі.
Нібыта стражнікі чужыя –
Сумёты скрозь паўз бальшакі.
А холад шчэміцца праз дзверы
І здрадай хату ахінуў.
Стаміўся спадзявацца, верыць,
Стаміўся я чакаць вясну.
Счарніла ноч завеям вейкі,
Схавала ветах пад крысо,
І падаў у знямозе вецер,
І заблудзіўся недзе сон.
Не будзе сонца, кветак лета,
Не запяе жаўрук здалёк,
Не вырвецца з палону ветах,
Што вунь блішчыць, як вугалёк.
Не загучыць акорд крыніцы,
Не выйду я на свой бальшак...
Дзядуля нанач стаў маліцца –
І акрылілася душа.

* * *

Зімовым следзянелым ранкам
Дым з каміноў сплывае ў неба.
Ля ганка – хвосцік абаранкам –
Сабака у чаканні хлеба.
Гарыць барвовая дзянніца
У вокнах хат пустой пагрозай,
І лета сонечнае сніцца
Каля аселіцы бярозам.

# *ЗМЕСТ*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Віктар Іванавіч Кунцэвіч

**Горкая спакуса**

*Кніга лірыкі*

Рэдактар *В.Гардзей*
Карэктар *С.Кардаш*
Кампутарны набор і вёрстка *Л.Ваўчок*
Адказны за выпуск *Г.Вінярскі*

Падпісана да друку 7.06.99 г. Фармат 70х90 1/32
Друк афсетны. Папера афсетная.
Ум.друк.арк. 6,44.
Наклад 500 паасобнікаў. Заказ № 1182.

**МФ "Беларускі кнігазбор".**
**220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5.**
**Тэл./факс (017) 220-70-27.**
**Ліцэнзія ЛВ № 105 ад 31.12.97 г.**

***Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка***
***ў друкарні ДП "Мінсктыппраект"***
***220123, г.Мінск, вул.В.Харужай,13/61***
***ЛП №162 ад 6.01.98 г.***



Віктар Кунцэвіч нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Чырвоны Бор Бялыніцкага раёна. Яшчэ ў дзяцінстве, сур'ёзна захапіўшыся беларускай літаратурай і журналістыкай, пачаў пісаць вершы, спрабаваў свае сілы ў прозе. Вучыўся ў Магілёўскім ГПТВ-54, працаваў зваршчыкам, шафёрам таксі ў г. Магілёве. У 1995 годзе завочна скончыў факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Жыве ў Магілёве, працуе ў мясцовых выданнях, быў уласным карэспандэнтам "Чырвонай змены". Вершы Віктара Кунцэвіча друкаваліся ў беларускіх часопісах і газетах, а таксама ў калектыўных зборніках «Матчына слова», «Дняпроўскія хвалі» і іншых. Аўтар кнігі паэзіі «Зваротныя масты», якая выйшла ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць».

ISBN 985-6318-51-3

